
ЦІ ГЭТАГА ТЫ ХОЧАШ?
ТЫ ДАЗВОЛІШ МНЕ ЗАБІЦЬ ГЭТАГА ЧАЛАВЕКА, СЫН МОЙ?
ЛІЧЫШ, ТАДЫ ТЫ БУДЗЕШ... ЗАДАВОЛЕНЫ?
BRONSON


КА-КА-
ЛІ ЛАСКА...
СЦІХНІ. Я НЕ З ТАБОЙ РАЗМАЎЛЯЮ.
НУ ШТО, РАФАЭЛЬ?
НЕ... ГЭТА... Я НЕ ГЭТАГА ХАЦЕЎ. Я... Я ПРОСТА...
ПРОСТА ШТО, СЫН? ПЫРСНУЎ?
СТРАЦІЎ... КАНТРОЛЬ НАД САБОЙ?
НЕ... Я...
...ТАК. УСЁ ТАК.
ГЭТА ВІДАЦЬ НЯЎЗБРОЕНЫМ ВОКАМ – ТАБОЙ АВАЛОДАЛА ЛЮТАСЦЬ.
ТЫ СТРАЦІЎ МАГЧЫМАСЦЬ МЕРКАВАЦЬ ЦВЯРОЗА, ЗАБЛЫТАЎШЫСЯ Ў ВІРЫ ЎЛАСНЫХ ПАЧУЦЦЯЎ... У СВАЁЙ СМАГЕ АДПОМСЦІЦЬ.
Я ВЕДАЮ ГЭТЫЯ ПАЧУЦЦІ, БО САМ СПЫТАЎ ТОЕ Ж САМАЕ ШМАТ РАЗОЎ.
С... САПРАЎДЫ?



ТАК, ВЕДАЮ, У ГЭТА ЦЯЖКА ПАВЕРЫЦЬ, АЛЕ КАЛІСЬЦІ Я ТАКСАМА БЫЎ ЮНАКОМ, ЯК ТЫ І ТВАЕ БРАТЫ. ТАДЫ Я ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЎ ВЫВУЧАЦЬ ШЛЯХ НІНЗЯ – БЫЎ НЕСПРАКТЫКАВАНЫ.
І ДАВОЛІ ЧАСТА МЯНЕ АХОПЛІВАЛА ПАЧУЦЦЁ НЕПЕРААДОЛЬНАЙ ЛЮТАСЦІ, ЯКОЕ Я НЕ МОГ ЗРАЗУМЕЦЬ... І НЕ МОГ КАНТРАЛЯВАЦЬ.
«І ТОЛЬКІ З ЦЯГАМ ЧАСУ, ДЗЯКУЮЧЫ ПРАКТЫКАВАННЯМ, ШТО РАЗВІВАЛІ ЦЯРПЕННЕ, ЯКІМ МЯНЕ НАВУЧАЎ ЧАЛАВЕК, ЗНАЧНА РАЗУМНЕЙШЫ ЗА МЯНЕ...»
«...БЕЗЗАПАВЕТНАМУ КАХАННЮ ТОЙ, НА КАГО Я МОГ ЗАЎСЁДЫ АБАПЕРЦІСЯ...»
«...І НЕПАХІСНАМУ ДАВЕРУ ЧАТЫРОХ МАЛАДЫХ ЛЮДЗЕЙ, ЯКІЯ ЗАЎСЁДЫ МАГЛІ АБАПЕРЦІСЯ НА МЯНЕ...»
...Я, НАРЭШЦЕ, ЗМОГ УЗЯЦЬ ПАД КАНТРОЛЬ ТУЮ ЧОРНУЮ ЛЮТАСЦЬ, ЯКАЯ ЗЗЯЛА ЎНУТРЫ. І ЦЯПЕР У МЯНЕ ТОЛЬКІ СПАКОЙ І РАЗУМНЫ СЭНС.
Я НАВУЧЫЎСЯ ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ СІЛУ ТОЛЬКІ Ў ТЫМ ВЫПАДКУ, КАЛІ ЎСЕ МАГЧЫМЫЯ МІРНЫЯ ШЛЯХІ СКОНЧЫЛІСЯ.
НАВУЧЫЎСЯ ПЕРАМАГАЦЬ ЛЮТАСЦЬ І ГОНАР, ЯКІЯ СТАЛА ПАГРАЖАЛІ ЗГЛЫНУЦЬ МЯНЕ.
АЛЕ Ж ГЭТА... ГЭТА НЕ ЗАЎСЁДЫ ТАК ЛЁГКА, БАЦЬКА.


БЫЦЬ ВЫСАКАРОДНЫМ ЗАЎСЁДЫ ЦЯЖКА, СЫН МОЙ.
І, НА ГОРА ДЛЯ НЕКАТОРЫХ, ТАКІХ ЯК ТЫ І Я, ІСЦІ ПА МІРНАМУ ШЛЯХУ – САМАЯ ЦЯЖКАЯ БОЙКА З УСІХ, БОЙКА З САМІМ САБОЙ. АЛЕ МЫ ПАВІННЫ ПРАЦЯГВАЦЬ ГЭТУЮ БІТВУ.
Я РАЗУМЕЮ, ПРА ШТО ВЫ... САПРАЎДЫ. І ВЕДАЮ, ШТО ВЫ МАЕЦЕ РАЦЫЮ. АЛЕ...
...АЛЕ ТАКСАМА Я РАЗУМЕЮ, ШТО КАЛІ НІЧОГА НЕ ЗРАБІЦЬ, ТАДЫ ЁН ТАК І БУДЗЕ ПРАЦЯГВАЦЬ КАТАВАЦЬ КЕЙСІ І... І, У РЭШЦЕ РЭШТ, ЗАБ'Е ЯГО.
ГЭТЫ ЗЛОДЗЕЙ... УСЯ ГЭТАЯ ХАЛЕРА, ЯКОЙ ЁН ПАДВЯРГАЕ СВАЁ Ж ДЗІЦЯ – МАГЧЫМА, Я НЕ ПРАВЫ, АЛЕ Я ЛІЧУ, ШТО ЁН НЕ ВАРТЫ ЖЫЦЬ.
А ВОСЬ ТУТ, СЫН МОЙ...
...Я З ТАБОЙ ЗГОДНЫ.
СПЫНІЦЕСЯ,... ШТО?
НЕ!


ВОСТРАЎ БЁРНАЎ.
ШТО Ж, СТОКМАН, ЛІЧУ, У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ДА МЯНЕ ПЫТАННІ?
ТАК... ПРА ГЭТА НЕ ЦЯЖКА БЫЛО ЗДАГАДАЦЦА, ГЕНЕРАЛ КРЭНГ.
НУ, ТАДЫ ПЫТАЙСЯ.
ДОБРА.
ХТО Ж ТЫ ТАКІ? ШТО ТЫ ТАКОЕ? І ДЗЕ Я, ХАЛЕРА БЯРЫ, ЗНАХОДЖУСЯ?
І ШТО ГЭТА ЎСЁ ЗА ХРЭНАЦЕНЬ?



МЯНЕ КЛІЧУЦЬ, ЯК ТЫ ЎЖО ВЕДАЕШ, КРЭНГ. Я – УТРОМ З ПЛАНЕТЫ УТРОМІНОН. ТЫ – У МАІМ КАМАНДНЫМ ЦЭНТРЫ НА ВОСТРАВЕ БЁРНАЎ. НАКОНТ АПОШНЯГА ПЫТАННЯ...
КАЛІ НЕ ЛІЧЫЦЬ МЯНЕ, ТАДЫ ГЭТА – УСЁ, ШТО ЗАСТАЛОСЯ АД РАСЫ ЎТРОМАЎ.
ІНШАЗЕМНАЯ ІСТОТА? ЦІКАВА.
МІЖПРАСТОРАВАЯ ІСТОТА – НЕ БЛЫТАЙ ГЭТЫЯ ДВА ПАНЯЦЦІ, СТОКМАН. УТРАМІНОН, ПЕРАД ТЫМ, ЯК ЯГО ЗНІШЧЫЛІ, БЫЎ ЧАСТКАЙ ВЫМЯРЭННЯ ІКС – ВЫМЯРЭННЯ, АЛЬТЭРНАТЫЎНАГА ВАШАМУ.
ШТО Ж... ГЭТА ЎСЁ, КАНЕШНЕ, ДЗІЎНА. І ТАК, У ГЭТЫМ ЁСЦЬ СЭНС.
ДОБРА, КАЛІ ТЫ З ІНШАГА ВЫМЯРЭННЯ, ТАДЫ ЯК ЖА ТЫ ТРАПІЎ СЮДЫ, НА ВОСТРАЎ БЁРНАЎ? НА ЗЕМЛЮ?
ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ ПАТЛУМАЧЫЦЬ, Я ЛЕПШ ТАБЕ ПАКАЖУ. ЗА МНОЙ.
ГЭТЫ МІЖПРАСТОРАВЫ ПАРТАЛ ДАЗВАЛЯЕ НАМ ВАНДРАВАЦЬ МІЖ ВЫМЯРЭННЯМІ ІКС І ЗЯМЛЁЙ.
ЗРУШАЛЬНА. ПРОСТА ЗРУШАЛЬНА.
І ТОЛЬКІ НЯДАЎНА, ПАСЛЯ ЗНІШЧЭННЯ НАШАЙ ПЛАНЕТЫ, МЫ ВЫРАШЫЛІ ЗРАБІЦЬ ЗЯМЛЮ НАШЫМ НОВЫМ... «ДОМАМ».
УТРАМІНОН... КАЖАШ, ЁН БЫЎ ЗНІШЧАНЫ?


КАЛІСЬЦІ УТРАМІНОН БЫЎ САМАЙ МАГУТНАЙ ПЛАНЕТАЙ У ВЫМЯРЭННІ ІКС.
«ЯНА БЫЛА ЦЭНТРАМ КВІТНЕЮЧАЙ ІМПЕРЫІ, ЯКАЯ АХОПЛІВАЛА ЎСЕ КУТЫ СУСВЕТУ....»
«...ІМПЕРЫІ, ЯКОЙ ШМАТ ГАДОЎ КІРАВАЛА ГРУПА, ЯКАЯ КЛІКАЛА СЯБЕ ВЫШЭЙШАЙ РАДАЙ УТРОМАЎ.»
«МОЙ БАЦЬКА, КАНІН, БЫЎ ІХ ВЯРХОЎНЫМ ГАЛОЎНАКАМАНДУЮЧЫМ, А Я БЫЎ ЯГО ПРАВАЙ РУКОЙ».
«ІМПЕРСКІЯ АМБІЦЫІ МАЙГО БАЦЬКІ БЫЛІ ЯК ЯГО ГАЛОЎНАЙ ДОБРАЙ ЯКАСЦЮ...»
«...ТАК І ПРЫЧЫНАЙ ЯГО ЗНІШЧАЛЬНАЙ ЗГУБЫ.»




*БАЙЦЫ СУПРАЦІВУ НЕЙТРЫНА.


ГАХ!
FZAP
НЕ!
ПАМРЫ Ж, КРЭНГ!
FZAP
ГЕНЕРАЛ, БЕРАЖЫЦЕ... ГГГАА!
ТЫ ШТО, ПРЫВЁЎ МЯНЕ СЮДЫ, КАБ МЯНЕ ТУТ ЗАБІЛІ?
АДПАЧНІ, СТОКМАН. ГЭТА ПРОСТА... ЯК ТЫ ТАМ КАЗАЎ?
АХ, ТАК...


ZARK
...НЯЗНАЧНАЯ ПАМЫЛКА.
АААГК!
ГЕНЕРАЛ КРЭНГ! ВЫ Ў ПАРАДКУ, СЭР??
ЎСЁ ДОБРА, КАІПТАН ТРАГ – АЛЕ Я НЕ МАГУ СКАЗАЦЬ ТОЕ Ж ПРА АДНАГО З ТВАІХ БРАТОЎ...
...АБО ПРА ГЭТЫХ КРЭТЫНАЎ-ПАЎСТАНЦАЎ, У ЯКІХ ХАПІЛА НАХАБСТВА НАПАСЦІ НА МЯНЕ.
ЛЕЙТЫНАНТ ПОЎГ, ВЫЦЯГНІЦЕ СВОЙ ПАДЦІСНУТЫ ХВОСТ І АКТЫВІРУЙЦЕ ПАРТАЛ. ЗАРАЗ ЖА.
Т-ТАК, СЭР. ВІДАЦЬ, УСЁ ЗНОЎ ФУНКЦЫЯНІРУЕ.
FOOM
ТАДЫ ДАЗВОЛЬ МНЕ ПАСЛАЦЬ ГЭТЫМ ВЫРАДКАМ НЕЙТРЫНА ПАВЕДАМЛЕННЕ ПРА ТОЕ, ШТО БУДЗЕ З КОЖНЫМ, ХТО ПАСПРАБУЕ ВЫКІНУЦЬ ПАДОБНАЕ ГЛУПСТВА ЯШЧЭ РАЗ.


КАПІТАН ТРАГ, СКАЖЫ ПОЎГУ І ЎСІМ АСТАТНІМ РАЗУМОВЫМ, КАБ ЯНЫ ПАСПЯХОВА ЎЗЯЛІСЯ ЗА ПОШУК ВЫРАШЭННЯ ГЭТАЙ ПРАБЛЕМЫ З ПАРТАЛАМ.
СЯРЖАНТ ГРАНІТАР, ЗАГАДВАЮ ПАДВОІЦЬ АХОВУ ПАРТАЛА З БОКУ НЕЙТРЫНА. КАЛІ ТАКАЯ СІТУАЦЫЯ ПАЎТАРЫЦЦА, НЕХТА ЗАСТАНЕЦЦА БЕЗ ГАЛАВЫ!
ЗРАЗУМЕЛА, СЭР!
ЗА МНОЙ, СТОКМАН.
Я... УХ... КАНЕШНЕ, ГЕНЕРАЛ.
ШТО... ШТО ГЭТА БЫЛО?
ЖАЛАСНАЯ СПРОБА НАПАДУ З БОКУ НЯЎДАЧНІКАЎ З ПЛАНЕТЫ, ЯКАЯ ХУТКА БУДЗЕ ПАД МАІМ КАНТРОЛЕМ... ВА ЎСІХ ЗНАЧЭННЯХ. ДАРЭЧЫ, ГЭТА НЕЯК ЗВЯЗАНА З ПРЫЧЫНАЙ, ДЗЕЛЯ ЯКОЙ Я ВЫРАШЫЎ ПРЫВЕЗЦІ ЦЯБЕ СЮДЫ.
ТАК... ВОСЬ ПРА ГЭТА Я І ХАЦЕЎ СПЫТАЦЬ.
ХОЦЬ ТВАЯ ПРАЦА Ў КІРУНКУ ГЕНЭТЫЦЫ МЯНЕ ВЕЛЬМІ РАСЧАРАВАЛА, Я ПРЫЗНАЮ, ШТО Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ НЕЙКІЯ НАВЫКІ Ў ГАЛІНЕ МЕХАНІКІ – ТВАЕ МАЎЗЕРЫ, ХАЦЯ Б, БЫЛІ ТРОХІ КАРЫСНЫЯ. ТОЛЬКІ ПА ГЭТАЙ ПРЫЧЫНЕ Я ДАЮ ТАБЕ ЯШЧЭ АДЗІН ШАНЕЦ ДАКАЗАЦЬ СВАЮ ЗНАЧНАСЦЬ.
ЧАГО ВЫ ЖАДАЕЦЕ, ГЕНЕРАЛ?
Я ХАЧУ, КАБ ТЫ СКОНЧЫЎ КАНСТРУІРАВАННЕ ПРЫБОРА, ЯКІ РАСПЛЮШЧЫЦЬ МАІХ ВОРАГАЎ І ВЕРНЕ ЎТРОМАМ РАНЕЙШУЮ ЎЛАДУ... І МЫ, НАРЭШЦЕ, ЗМОЖАМ УЗНАВІЦЬ СТРАЧАНЫ ГОНАР МАЙГО БАЦЬКІ.
САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ, СТОКМАН...



ROUND TIME
ROUND STORE
IQUES
ЯК ТВАЯ ГАЛАВА, КЕЙСІ?
УЖО ЛЕПШ, ЛЕА... ДЗЯКУЙ. ЛЁД І АСПІРЫН ВЕЛЬМІ ДАПАМАГЛІ.
ДОБРА. А ВОСЬ І ЗЯЛЁНАЯ ГАРБАТА СЭНСЭЯ – ЁН ШАНАВАЎ ЯГО ГАЮЧЫЯ ЗДОЛЬНАСЦІ. Я І ТАБЕ ЗАВАРЫЎ, ЭЙПРЫЛ.
ДЗЯКУЙ.
ТЫ НЕ ЗАХОЧАШ ПАДЗЯКАВАЦЬ ЯМУ, КАЛІ ПАСПРАБУЕШ ГАРБАТУ, ФІ.
ШЧЫРА КАЖУЧЫ, МОЙ ГОНАР БАЛІЦЬ ЗНАЧНА БОЛЬШ, ЧЫМ ЧЭРАП. МНЕ ТАК СОРАМНА, ШТО Я ЎЦЯГНУЎ У ГЭТА ВАС. І ШТО РАФ ТАК УЗБЕЛЯНІЎСЯ, І ЎСЁ ТАКОЕ...
...БЛІН, ГЭТА АГІДА.
І КУДЫ Б ЯШЧЭ ТЫ ПАЙШОЎ, КЕЙСІ?
ФУ. СМАК САПРАЎДЫ ЖУДАСНЫ.
Я... Я НЯ ВЕДАЮ, ЭЙПРЫЛ. НАПЭЎНА, МНЕ ТРЭБА БЫЛО ЗАСТАЦЦА ДОМА. РАНЕЙ Я ТАК ЗАЎСЁДЫ РАБІЎ, КАЛІ МОЙ БАЦЬКА ПАЧЫНАЎ... НУ, ВЫ ЗРАЗУМЕЛІ.
ЗАСТАВАЦЦА КАЛЯ ЧАЛАВЕКА, ЯКІ ЦЯБЕ ПАБІЎ? ВЫДАТНАЯ ІДЭЯ.
МЫ – ТВАЕ СЯБРЫ, КЕЙСІ – ТЫ ЗАЎСЁДЫ МОЖАШ ПРЫЙСЦІ ДА НАС, КАЛІ Ў ЦЯБЕ ПРАБЛЕМЫ І ТАБЕ ПАТРЭБНА ДАПАМОГА.
ЗАСТАВАЙСЯ СЯРОД НАС, А НЕ З ТАК ЗВАНЫМ БАЦЬКАМ.


ЁН БЫЎ П'ЯНЫ, ЭЙПРЫЛ. ТАКОЕ БЫВАЕ, І Я З ГЭТЫМ ЛАДЗІЎ, РАЗУМЕЕШ?
НЕ, КЕЙСІ. НЕ РАЗУМЕЮ. БОЛЬШ НЕ. ЦЯПЕР У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ВЫБАР.
Я... Я РАЗУМЕЮ ГЭТА – ПРАЎДА. ВІДАЦЬ, Я ПРОСТА НЕ ЗВЫК З ТЫМ, ШТО ТАК ШМАТ ЛЮДЗЕЙ... КЛАПАЦЯЦЦА ЗА МЯНЕ, РАЗУМЕЕШ?
Я ТАК ДОЎГА БЫЎ САМ НА САМ, ШТО ЦЯПЕР ІНШЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ МНЕ ЗДАЕЦЦА... ДЗІЎНЫМ.
СЛУХАЙ, КЕЙСІ, КАЛІ МЫ І АТРЫМАЛІ НЕЙКІ ДОСВЕД, ДЫК ГЭТА ЎРОК ПРА ТОЕ, ШТО НАМ ЛЕПШ ТРЫМАЦЦА РАЗАМ, А НЕ ПААСОБНА.
ДОНІ МАЕ РАЦЫЮ. МЫ ПАВІННЫ ТРЫМАЦЦА РАЗАМ – УСЕ МЫ.
ЧАСЦЯКОМ МЫ ХАЦІМ НАПАДДАСЦІ АДЗІН АДНАМУ, АЛЕ ЎРЭШЦЕ РЭШТ, МЫ ГАТОВЫЯ ПРАЦЯГНУЦЬ РУКУ АДЗІН АДНАМУ, ШТО Б НІ ЗДАРЫЛАСЯ.
АГА. НАВАТ КАЛІ ХТОСЬЦІ З НАС ГАРОДЗІЦЬ АГАРОДЖУ І АДМАЎЛЯЕЦЦА РАЗУМЕЦЬ ЛОГІКУ... МЫ ЎСЁ РОЎНА АДНА СЯМ'Я.


РАЗУМЕЕШ, ПРА ШТО МЫ, ТАК?
ТАК... РАЗУМЕЮ, ЧУВАК. ЯК ДОБРА ЎСВЯДАМЛЯЦЬ, ШТО Ў МЯНЕ ЁСЦЬ ТАКІЯ СЯБРЫ, ЯК ВЫ. САПРАЎДЫ.
АДНАК, КАЛІ МЫ ЎЖО КРАНУЛІ ГЭТУЮ ТЭМУ... ЧАСАМ Я ЧУЮ, ЯК ВЫ, РАБЯТЫ, СВАРЫЦЕСЯ З-ЗА ВАШАГА МІНУЛАГА І ГЭТАК ДАЛЕЙ, І Я ПЫТАЮ СЯБЕ, А ЦІ РАЗУМЕЕЦЕ ВЫ САМІ?
ШТО ДАКЛАД-НА?
ЯК ВАМ ПАШАНЦАВАЛА, ШТО ВЫ ЗАРАЗ ТУТ, І НЕ МАЕ ЗНАЧЭННЯ, АДКУЛЬ ВЫ З'ЯВІЛІСЯ.
РАЗУМЕЕЦЕ, ЧАСТА Я ПРАХОДЖУ ДАДОМУ І ДУМАЮ, ЯК БЫ СЁННЯ БАЦЬКА МНЕ НЕ НАТРАШЧАЎ. А ВЫ, РАБЯТЫ... ВАШ БАЦЬКА ГАТОВЫ АХВЯРАВАЦЬ СВАІМ ЖЫЦЦЁМ ДЗЕЛЯ ЛЮБОГА З ВАС.
ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ ЗАЎСЁДЫ СПРАЧАЦЦА І БІЦЦА З-ЗА ЎСЯКАЙ ДРОБЯЗІ...
...ВЫ Б ЛЕПШ ХОЦЬ РАЗ ЗАДУМАЛІСЯ ПРА ТОЕ, ШТО Я СКАЗАЎ.



ШТО ТЫ ПРА МЯНЕ ДУМАЕШ ЗАРАЗ, РАФАЭЛЬ?
КАЛІ Я ЗАРАЗ ЗАРЭЖУ ГЭТАГА ЧАЛАВЕКА – Я ЗРАБЛЮ ПРАВІЛЬНА?
Я... Я НЕ ВЕДАЮ.
НЕ... КАЛІ ЛАСКА...
КАЛІ Я СПЫНЮ ЯМУ ЖЫЦЦЁ, ЛІЧЫШ, ГЭТА ТАК САМА СПЫНІЦЬ І ЎСЕ ПРАБЛЕМЫ ТВАІХ СЯБРОЎ?
Я... Я...
...НЕ. ГЭТА... ГЭТА НІЧОГА НЕ ВЫПРАВІЦЬ. ГЭТА ЗРОБІЦЬ ТОЛЬКІ ГОРШ.
Я ЗАДАВОЛЕНЫ, ШТО ТЫ ЗРАЗУМЕЎ, СЫН МОЙ. І Я РАДЫ ПАВЕДАМІЦЬ ТАБЕ, ШТО ВЫРАШЭННЕ Ў ГЭТАЙ ПРАБЛЕМЫ ЁСЦЬ – ЗНАЧНА БОЛЬШ МІРНАЕ... І РАЗУМОВАЕ.
ЗБІРАЙ РЭЧЫ СВАЙГО СЯБРА...
...КЕЙСІ ДЖОНС ПЕРАЯЗЖАЕ ДА НАС.


CLICK
CLICK
Я ГАТОВЫ, МАЙСТАР СПЛІНТЭР.
Я ТАК-САМА.
ЗДАЕЦЦА, ГЭТА ТВАЁ, СЫН МОЙ.
АГА, ТАК ТРЫМАЦЬ, ВЫРАДКІ... ЦЯГНІЦЕСЯ АДСЮЛЬ! ШТО... ШТО ВЫ ЗА ПАЧВАРЫ ТАКІЯ, ХАЛЕРА ВАС БЯРЫ!?
ПЫТАЕШ, ШТО МЫ ЗА ПАЧВАРЫ. МАГЧЫМА, ЛЕПШ СПЫТАЦЬ...
...ШТО ТЫ ЗА ЧАЛАВЕК?
ПОЙДЗЕМ, СЫН. НАМ ЧАС ВЯРТАЦЦА ДАДОМУ.


ПАЙДУ, ВОЗЬМУ ЦУКРУ ДЛЯ ГАРБАТЫ. ТАБЕ ПРЫНЕСЦІ, КЕЙСІ?
АХ, ТАК... НЕ СУПРАЦЬ, ЭЙПРЫЛ. ЁН І САПРАЎДЫ, ЭЭ НАВАРЫСТЫ.
Я Ж КАЗАЎ.
SILVER SENTRY
СЭНСЭЙ! РАФ! ВЫ ВЯРНУЛІСЯ!
НУ ЯК, УСЁ... НАЛАДЖАНА, БАЦЬКА?
ТАК, ЛЕАНАРДА, УСЁ ДОБРА.
АЛЕ НАМ ТРЭБА ПАГУТАРЫЦЬ... ЯК СЯМ'І... КАЛІ ЛАСКА, ЗБЯРЫ ЎСІХ.
ЭЭ... НУ, МЫ З ЭЙПРЫЛ ТАДЫ ПОЙДЗЕМ. ДЗЯКУЙ ЗА ГАРБАТУ, І...
Я СКАЗАЎ, ШТО ГЭТА СЯМЕЙНЫ ЗБОР, КЕЙСІ ДЖОНС. ТАМУ Я ПРАШУ ВАС І МІС А'НІЛ ЗАСТАЦЦА.
КАЛІ ЛАСКА.
ЭЭ... ДОБРА. КАНЕШНЕ, СПЛІНТЭР.
ДОБРА.


ВІДАЦЬ, ЛЁС ПРАПАНАВАЎ НАМ ГЭТЫ ВЫПАДАК САБРАЦЦА РАЗАМ.
І ТОЕ, ШТО МЫ, ЯК СЯМ'Я, РАЗАМ ПЕРАЖЫЛІ СУТЫКНЕННЕ З САМЫМ СТРАШЭННЫМ ЗЛОМ, З'ЯЎЛЯЕЦЦА СВЕДЧАННЕМ НАШАЙ ПРЫХІЛЬНАСЦІ АДЗІН ДА АДНАГО. МОЙ ГОНАР ЗА ВАС... НЕ ВЕДАЕ МЕЖАЎ.
ХОЦЬ ВЫ ЎСЕ ЯШЧЭ ДЗЕЦІ І ЧАСЦЯКОМ НАІЎНА СТАВІЦЕСЯ ДА ЗЛАРАДНАЙ НАТУРЫ НАШАГА СУПЕРНІКА.
ДОНІ, А ШТО АЗНАЧАЕ «ЗЛАРАДНАЙ»?
ЦІШЭЙ, МАЙКІ!
СЁННЯ РАФАЭЛЬ І Я СУТЫКНУЛІСЯ З ЦЯЖКІМ ВЫПРАБАВАННЕМ – САПРАЎДНАЙ ПРАВЕРКАЙ СУМЛЕННАСЦІ НАШЫХ МІРНЫХ НАМЕРАЎ. У РЭШЦЕ РЭШТ, СПАКОЙ ПЕРАМОГ.
МЫ ВЫБРАЛІ ПРАВІЛЬНЫ ШЛЯХ, І З ГЭТЫМ ВЫБАРАМ У НАШЫ ЖЫЦЦІ ПРЫЙШЛІ ВАЖНЫЯ ЗМЕНЫ. ПАЧЫНАЮЧЫ З СЁННЯШНЯГА, КЕЙСІ ДЖОНС БУДЗЕ ЖЫЦЬ З НАМІ.
УХ ТЫ... ЭЭ, СПЛІНТЭР, ГЭТА ТАК ПРЫЕМНА АД ВАС ЧУЦЬ І ГЭТКАЕ ІНШАЕ, АЛЕ... Я НЕ ХАЧУ, ВЕДАЕЦЕ, НАВЯЗВАЦЦА ВАМ...
КЕЙСІ, ЎСЁ ДОБРА. САПРАЎДЫ. МЫ ЎСЕ РАДЫЯ ПРЫНЯЦЬ ЦЯБЕ, БРАТ – ТВАЁ МЕСЦА ТУТ, СЯРОД НАС.
ЭЭЭ... ДОБРА. ДОБРА. СУР'ЁЗНА... ГЭТА...
...ДЗЯКУЙ.


Я ЗАЎСЁДЫ ВУЧЫЎ ВАС, ШТО ДА ГВАЛТУ ТРЭБА ПРЫБЯГАЦЬ ТОЛЬКІ Ў АПОШНІ МОМАНТ – ТОЛЬКІ ТАДЫ, КАЛІ ВАШАЕ ЖЫЦЦЁ Ў НЕБЯСПЕЦЫ. НА СВЕЦЕ НЯМА НІЧОГА БОЛЬШ СВЯТОГА, ЧЫМ ЖЫЦЦЁ.
Я ЗМАГАЎСЯ З ГЭТАЙ ФІЛАСОФІЯЙ УНУТРЫ СЯБЕ, КАЛІ СУСТРЭЎ АРОКУ САКІ. ХОЦЬ ЁН І КЛІЧА ЗАРАЗ СЯБЕ ШРЭДАРАМ, Я ЎСЁ ЯШЧЭ АДЧУВАЮ Ў ІМ ТОГА СТАРОГА ВОРАГА – ВОРАГА, ЯКІ ВАЛОДАЕ МАГУТНАЙ СІЛАЙ І ЯШЧЭ БОЛЬШ МАГУТНАЙ БЯЗЛІТАСНАСЦЮ.
ВОРАГА, ЯКІ НЕНАВІДЗІЦЬ МЯНЕ КОЖНЫМ СВАІМ КАВАЛАЧКАМ, І ЯКІ НЕ СУПАКОІЦЦА, ПАКУЛЬ НЕ ПАБАЧЫЦЬ НАС МЁРТВЫМІ.
СЁННЯ Ж МЫ НЕ СТАЛІ ПАЗБАЎЛЯЦЬ ЖЫЦЦЯ ЧАЛАВЕКА, ЯКІ НЕ З'ЯЎЛЯЕЦЦА СМЯРОТНАЙ ПАГРОЗАЙ ДЛЯ НАС. АДНАК, САКІ... ШРЭДАР З'ЯЎЛЯЕЦЦА. ДЛЯ НАС... І ДЛЯ ШМАТ ЯШЧЭ ЯКІХ НЯВІННЫХ ЛЮДЗЕЙ.
Я НЕ ХАЧУ, КАБ ВЫ, МАЕ ЛЮБЫЯ СЫНЫ, ЯК ГЭТА НЕПАЗБЕЖНА АДБЫВАЕЦЦА З УСІМІ, БЫЛІ АКРОПЛЕНЫ КРЫВЁЙ ГВАЛТА.
АЛЕ ГЭТЫ ГОРАД, ЯКІ МЫ ЗАРАЗ КЛІЧАМ СВАІМ ДОМАМ... А, МАГЧЫМА, І ЎВЕСЬ СВЕТ... УЖО НІКОЛІ НЕ БУДЗЕ Ў БЯСПЕЦЫ, ПАКУЛЬ «ФУТ» НЕ БУДЗЕ ПАРАМОЖАНЫ. ПАКУЛЬ ШРЭДАР НЕ БУДЗЕ ЗНІШЧАНЫ.
МАЙСТАР СПЛІНТЭР, НЯЎЖО ВЫ МАЕЦЕ НА ЎВАЗЕ ТОЕ, ШТО Я ДУМАЮ?
Я ПРОСТА РАБЛЮ ВЫСНОВУ, ШТО ШРЭДАР СВАІМІ ДЗЕЯННЯМІ НЕ ПАКІДАЕ НАМ ВЫБАРА.
ПАКУЛЬ ЁН ЖЫВЫ, НЕ БУДЗЕ НІ МІРУ, НІ СПАКОЮ.
РАЗУМЕЮ, ГЭТА ЦЯЖКА ПРЫНЯЦЬ. АЛЕ ГЭТА СУМНАЯ РЭАЛЬНАСЦЬ, ЯКАЯ ПРЫМУШАЕ НАС ДЗЕЙНІЧАЦЬ ТАКІМ ЧЫНАМ. ЯК І ВЫ, Я ЛІЧУ ГЭТЫ ФАКТ ВЕЛЬМІ СУМНЫМ.
АЛЕ, НАВАТ ПАЎТАЮЧЫ СУПРАЦЬ СМЯРЦЕЛЬНАЙ НЕБЯСПЕЦЫ, МЫ ПАВІННЫ ІСЦІ ПА ДАКЛАДНЫМ ШЛЯХУ.
ЗАЎСЁДЫ ПАМЯТАЙЦЕ...


«...НЯМА НІЧОГА НАЙВАЖНЕЙШАГА, ЧЫМ СЯМ'Я».
У ХАМАТА ЁШЫ БЫЛА СЯМ'Я, КАРАІ, У НАШЫМ МІНУЛЫМ ЖЫЦЦІ. ЖАНА І ЧАТЫРЫ СЫНЫ. ПАСЛЯ ЗДРАДЫ ЁШЫ Я, ЗРАЗУМЕЛА, ПАКАРАЎ ІХ УСІХ. РАЗАМ З САМІМ ЁШЫ.
«АЛЕ ПЕРАД ТЫМ, ЯК ГЭТА ЎСЁ АДБЫЛАСЯ, Я ПАСПЕЎ ПАНАЗІРАЦЬ ЗА ЁШЫ І ЯГО СЫНАМІ – АСАБЛІВА, ЗА САМЫМ СТАРЭЙШЫМ, ЯКІ НАВАТ ТАДЫ, У ТАКІМ ЮНАЦКІМ УЗРОСЦЕ, ПАКАЗВАЎ УСЕ ПРЫКМЕТЫ САПРАЎДНАГА ВАЯРА».
«САПРАЎДНАГА ЛІДЭРА».
ГЭТА ЦІКАВА, ДЗЯДУЛЯ. ХАЦЕЛАСЯ Б ДАВЕДАЦЦА, ЧАМУ ТЫ РАПТАМ ВЫРАШЫЎ РАСКАЗАЦЬ МНЕ ПРА ГЭТА ПРАЦЫЮ.
Я ВЫРАШЫЎ ГЭТА ЗРАБІЦЬ, КАРАІ...


«...ТАМУ ШТО ЛІЧУ, ШТО ХЛОПЧЫК НІКОЛЬКІ НЕ ЗМЯНІЎСЯ».
Я КАЗАЎ ТАБЕ, ШТО МНЕ ПАТРЭБНЫ ГОДНЫ НАМЕСНІК, І ЗАРАЗ Я ВЫРАШЫЎ ЗТО ГЭТА БУДЗЕ.
БУДЗЬ ТАК ЛАСКАВА, КАРАІ.
ПРЫЦЯГНІ МНЕ ТАГО, КАГО ЁШЫ ЦЯПЕР КЛІЧА...
...ЛЕАНАРДА.
ПРАЦЯГ БУДЗЕ...